# НАШ Магілёў

www.nmahileu.org



Незалежнае грамадзка - палітычнае выданьне Гораду

Травень, 2008 год

# 35




Магілёўскія дэмакраты

**Тацяна Шамбалава, Каардынатар аргкамітэту па стварэньню партыі "Беларуская Хрэсціянская дэмакратыя" па Магілёўкай вобласці**

## "Неабходна рэвалюцыя ў розуме, душы, ментальнасці і свядомасці"

**Чаму я ў апазіцыі да сучаснай улады?**

На падобнае пытанне я заўсёды адказваю: я не пазіцыя, я не апазіцыя, я беларуска. Таму што сённяшняя сітуацыя, якая склалася ў Беларусі такая: калі ты беларус, то ты аўтаматычна з'яўляешся апазіцыянерам. Я беларуска, але аўтаматычна атрымоўваецца, што я апазіцыянерка.

**З чаго ўсё пачыналася?**

Усё пачыналася з таго моманту, калі пайшоў падзел сучаснай беларускай гісторыі, то бок ад Чарнобыльскай аварыі. Тады наша сям'я, на пэўны час, апынулася за межамі Беларусі. Мы выехалі ў Латвію, дзе жылі на працягу пяці год. Ужо там, у дзіцячым узросце сфармавалася мая свядомасць. У трохгадовым узросце я ўжо казала: "Я беларуска!". Потым мы вярнуліся ў Беларусь. Я пайшла вучыцца ў вясковую беларускамоўную школу ў 1994 годзе. З гэтага перыяду ў мяне адклаўся ў памяці ўрывак верша: "Са мной заўсёды герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг!" Гэта быў яшчэ перыяд нацыянальна-патрыятычнага выхавання. Пазьней, у старэйшых класах да мяне даходзілі чуткі пра апазіцыю, якая выглядала для мяне нечым светлым, ружовым і адчувалася ў сэрцы, што гэта беларусы,гэта наша беларускае, і калі ў 2005 годзе я паступіла ва ўніверсітэт імя А. Куляшова на гістарычны факультэт, то адтуль усё паступова і пачалося. У самым пачатку мяне запрасілі на сустрэчу з пісьменнікамі, якую ладзіла "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", потым запрасілі ў незалежны прафсаюз і да супрацоўніцтва ў розных незалежных выданнях. Летам 2007 года ў Магілёў прыехаў Павел Севярынец, які распавёў пра хрэсціянскую дэмакратыю. Вось тут маё сэрца загарэлася і я зразумела, што гэта тое месца, дзе мне патрэбна быць.

**Ці адчуваецца ціск з боку ўлады і ў чым ён праяўляецца?**

Пасля ўдзелу ў студэнцкім пікеце супраць адмены ільгот мяне выклікалі на размову да дэкана, дзе мяне папярэдзілі аб адказнасці. У восені 2007 года, падчас святкавання дня беларускай вайсковай славы, усе ўдзельнікі святкавання, сярод якіх была і я, былі затрыманы ў Любужскім лесе для высвятлення асобаў, пасля чаго ўсе былі адпушчаны. Яшчэ адно мае затрыманне таксама адбылося летам таго ж году на пікніке "Руху за Свабоду" пад Менскам. Часта ціск бывае ў размовах са звычайнымі людзьмі, якія не падзяляюць маіх пазіцый.

**Якое выйсці са склаўшайся сітуацыі ў краіне ты бачыш?**

Савецкая спадчына і адсутнасць самаідэтыфікацыі народу з'яўляюцца праблемамі беларусаў. Неабходна рэвалюцыя ў розуме, душы, ментальнасці і свядомасці. Для сябе я знайшла выйсце - гэта партыя "Беларуская Хрэсціянская дэмакратыя", якая займаецца вырашэннем гэтых пытанняў. Наша партыя адстойвае хрысціянскія прынцыпы і беларускі патрыятызм, то бок вяртанне народу духоўнасці і маральнасці, каб высокадухоўныя і высокамаральныя людзі бралі на сябе адказнасць і ішлі ў палітыку.

Гутарку вёў Вітольд НЯЎРЫДА



## Ветряные мельницы

От редакции

**Если режим не способен построить бумажную фабрику, о каком строительстве АЭС может идти речь?**

Ещё в 2007 году премьер Сидорский приезжал в Шклов на «открытие» бумажной фабрики. Видно "открывачка" не подошла - фабрику до сих пор не запустили. Это вам не пиво на лыжне...

В деле строительства АЭС пока дальше разговоров и выбора площадки процесс не пошёл.

Кстати, скорее всего атомную станцию будут строить в Чауском районе Могилёвской области. Для станции необходим водоём, и самый подходящий водоём для этого - водохранилище Рудея. И хотя площадка намечается немного в другом месте, перенести площадку для действующего режима - дело плёвое.

Что касается экономических показателей. В Эстонии, например, 12 ветрянных электростанций обеспечивают 1 % необходимой электроэнергии. Несложно подсчитать, что 1200 ветряков могут дать все 100 %. Тем временем бури у нас только крыши с домов срывают - энергия ветра не используется.

Но основной аргумент против строительства АЭС в Беларуси - нестабильность политического режима. Сегодня АЭС, а завтра неадекватный «бацька» будет производить ядерное оружие. Да и опять же, если не можешь построить бумажную фабрику, лучше тренироваться на коровниках, но никак не на атомных электростанциях.

## Ряд ученых и политиков полагают, что выгода производства энергии на АЭС преувеличена

naviny.by



**Как отметил кандидат технических наук Юрий Воронежцев, эксплуатация АЭС увеличит коллективную дозу радиоактивного облучения, полученную населением Беларуси в результате катастрофы на Чернобыльской АЭС.**

По его словам, до сих пор в мире не демонтирован ни один энергоблок АЭС, выработавший свой ресурс. "Вот почему является мифом утверждение о дешевой энергии, производимой на атомных электростанциях. Наоборот, они самые дорогие, если учесть стоимость демонтажа АЭС", — сказал Ю.Воронежцев. По его словам, возведение станции увеличит зависимость Беларуси от России, поскольку российские специалисты будут возводить АЭС, она будет оснащаться российскими реакторами и обеспечиваться российским ураном. "Только Россия будет вывозить отработанные ядерные отходы станции", — заметил ученый.

Кроме того, по его словам, эксплуатация АЭС потребует значительных капиталовложений в реконструкцию электросетей и приведет к отказу от борьбы за энергосберегающие технологии.

Как сказал один из инициаторов создания движения "За Свободу" Виктор Корнеенко, возведение и обслуживание станции потребует значительных средств для создания инфраструктуры города, в котором будут жить строители и энергетики. По его словам, события, предшествовавшие чернобыльской катастрофе, вызывают большое сомнение в том, что причастные к сооружению и эксплуатации станции смогут соблюдать технологическую дисциплину.

Политик обратил внимание на возможность развития энергосберегающих технологий, а также строительства белорусских энергоблоков на Ровенской АЭС в Украине. "Но для реализации такого проекта Беларусь должна быть надежным и предсказуемым соседом Украины", — подчеркнул В.Корнеенко. Он полагает, что проблема возведения отечественной АЭС может рассматриваться только при условии демократизации общества.

По словам председателя ОГП Анатолия Лебедько, позиция ученых и политических лидеров по вопросу строительства АЭС, высказанная на заседании, будет оглашена во время парламентской избирательной кампании.

## Жанчыны зьвярнуліся да Галіны Лукашэнка, мужчыны ў пракуратуру

Саша Заяц

**Узрушаныя жыхары дамоў, каля якіх будуецца АЗС, зьвяртаюцца куды толькі можна жанчыны падалі ліст да жонкі Прэзыдэнта, а мужчыны ў раённую пракуратуру.**

Нагадаем, што ў непасрэднай блізасьці ад дамоў №65 і 69 па вуліцы Сіманава, пачалося будаўніцтва аўтозаправачнай станцыі. Спачатку адлегласьць ад дома № 69 складала 17 мэтраў, але пасьля абяцаньняў мэра спыніць будаўніцтва, плот быў перанесены яшчэ на 15 мэтраў ад дома.

На сходке жыхароў, якія выступаюць супраць АЗС, адна з жанчынаў прапанавала зьвярнуцца да жонкі Лукашэнкі. Маўляла, што бывала шмат выпадкаў, калі аніхто не дапамагаў, а калі людзі зьвярталіся да яе - справа вырашалася. Неўзабаве грамадзянкі склалі ліст да Галіны й адвезьлі яе сакратару ў Шклоў. А таксама ўзгадалі і пра дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Сяргея Шлапака. Яму таксама вырашылі даслаць сваю скаргу.

Між тым, творчая група "Наш Магілёў" ды іншыя грамадзяне, большасьць з якіх мужчыны, асаблівай надзеі на дзяржаўныя структуры не ўскладаюць. 19 траўня жыхарамі была пададзена калектыўная скарга за 185 подпісамі ў пракуратуру Кастрычніцкага раёна горада Магілёва.

- Спадзявацца трэба на сябе, - кажа Максім Кавалёў, жахар дома №69,- У гэтай сытуацыі дапаможа толькі пракуратура, калі не раённая, дык абласная, а не абласная, дык генэральная. Аднак мы будзем йсьці да апошняга.

Плянам разьвіцьця, дарэчы, прадугледжана й чатырохпалосная дарога, якая будзе праходзіць акурат паміж дамамі й запраўкай, на адлегласьці 13,5 мэтраў ад дому. Даведаўшыся пра гэтае, жыхары ўзрушыліся яшчэ больш. "І дарогу мы не дазволім тут пракласьці", гучалі словы амаль ад кожнага жыхара.

# Што зробім для Беларусі?

## Пасланне Аб'яднаных дэмакратычных сіл грамадзянам краіны



ОБЪЕДИНЁННЫЕ ДЕМОКРАТИЧЕСКИЕ СИЛЫ БЕЛАРУСИ

**Лідэры апазіцыйных палітычных партый сумесна выпрацавалі тэкст паслання да грамадзян Беларусі, з якім кандыдаты ў дэпутаты пойдуць на парламенцкія "выбары".**

**Па словах партыйных лідэраў, гэтае пасланне рыхтавалася на працягу некалькіх месяцаў. Прыводзім тэкст паслання цалкам.**

Усім людзям трэба жыць, карміць сям'ю, гадаваць дзяцей. Але шалёныя кошты, як саранча, з'ядаюць нашыя заробкі. Дзе ўзяць грошы на кватэру? Хто дапаможа, калі захварэеш? Ад сацыяльных гарантый не засталося нічога.

Беларусь - не бедная краіна. Мы, беларусы, умеем і любім працаваць, а значыць, маем права жыць лепей. Але ці ведаем мы праўду аб тым, куды сыходзяць народныя грошы? Хто спытаў у людзей, калі прымаліся рашэнні аб ліквідацыі льготаў, аб кабальных кантрактах або разарэнні прадпрымальнікаў?

### Чаму так адбываецца?

Чым меншы кантроль над уладай, тым менш яна думае аб людзях.

Шмат хто баіцца адкрыта выказваць сваё меркаванне. Краіне неабходны сапраўдны парламент, дзе будуць людзі, якія не маўчаць і не дадуць падманваць народ. Такі парадак у Еўропе, дзе грамадзяне жывуць багата і свабодна, таму што кантралююць сваю ўладу.

Кантроль народа над уладай дасць людзям новыя магчымасці жыць лепш.

Усталяваць такі кантроль дапамогуць АБ'ЯДНАНЫЯ ДЭМАКРАТЫЧНЫЯ СІЛЫ, якія не баяцца казаць праўду.

Чыноўнікі і прызначаныя ўладай дэпутаты абслугоўваюць тых, хто іх прызначыў. А праўдзіва абраныя дэпутаты ад АБ'ЯДНАНЫХ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛ змогуць абараніць справядлівасць, дамагчыся кантролю над дзеяннямі ўладаў.

Зразумела: той, хто фальсіфікуе выбары, баіцца голасу народа. А праграма АБ'ЯДНАНЫХ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛ – гэта голас большасці людзей Беларусі.

### Кантроль над уладай дазволіць:

• стварыць лепшыя ўмовы для эканомікі, спыніць рост коштаў і захаваць сацыяльныя гарантыі;
• наладзіць партнёрства з Еўрапейскім Звязам і адкрыць для краіны новыя магчымасці;
• вызваліць прадпрымальнікаў ад самаўпраўнасці ўладаў;
• гарантаваць новыя працоўныя месцы, якасную адукацыю і ахову здароўя;
• гарантаваць людзям правы і свабоды.

Зараз Вы ведаеце пазіцыю АБ'ЯДНАНЫХ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛ:

**НЕ НАРОД ДЛЯ ЎЛАДЫ, А ЎЛАДА ДЛЯ НАРОДА!**

# Улады раяць зняць "няправільныя" іконы

✍Алесь Васількоў, belnarod.org

**Пасля заканчэння рэстаўрацыйных работ у цэнтральным нефе Свята-Пакроўскага кафедральнага сабора, што ў Гародні, з'явіліся 10 выяваў закатаваных саветамі вернікаў.**

На іх выявы новапакутнікаў і споведнікаў, што пацярпелі ад савецкай улады. Аднак хаця пасля развала СССР вырасла ўжо цэлае пакаленне маладзёнаў, Беларусь спрабуе супрацьстаяць царкоўнаму праслаўленню праваслаўных хрысціян, закатаваных за веру.

Па словах бацюшкі Сяргея, які служыць у Свята-Пакроўскім храме, усе іконы былі напісаны ў майстэрнях Свята-Елізавецінскага манастыра Мінскай епархіі. А некаторыя з'яўляюцца спісамі клейм іконы "Сабор Новапакутнікаў і Споведнікаў Расейскіх, за Хрыста пацярпеўшых, яўленых і неяўленых". Часткова іконы ствараліся ў саміх майстэрнях спецыяльна для гарадзенскага сабора. На іх канкрэтныя людзі, якія неслі канкрэтны подзвіг дзеля Хрыста. Напрыклад, на адной выява Серафіма Жыровіцкага, які падчас Вялікай Айчыннай вайны са сваім памочнікам аб'ехаў усю Беларусь, каб людзі пачулі слова божае. Улада не магла дараваць гэтага: у Гародні арыштавалі, ён прыняў пакутніцкую смерць. Да ягоных ног прывязалі вяроўкі, іх – да машын, і яны паехалі ў розныя бакі.

Сёння людзі ў цывільным імкнуцца дабіцца, каб іконы новапакутнікаў былі зняты. І ў Гародні яны ўжо раілі мясцовым клірыкам Беларускай праваслаўнай царквы схаваць іх ад людскіх вачэй, бо там чырвонаармейцы адлюстраваны катамі з вінтоўкамі. Безумоўна, афіцыйнага загаду зняць іконы няма, аднак размова была. Свяшчэннікі ў сваю чаргу лічаць, што гэта сумленны адказ царквы. Яна паказала рэальную гісторыю. Хіба можна запамятаваць, што ў вядомы перыяд айчыннай гісторыі знішчаліся тыя, хто думаў інакш, чым афіцыйная ўлада.

На 10 іконах з сабору ў Гародні намаляваны праваслаўныя епіскапы таго часу, закатаваныя савецкім рэжымам перад Другой сусветнай вайной. А ўвогуле, па дадзеных Свята-Ціханаўскага праваслаўнага універсітэту ў Маскве, каля 90 тысяч праваслаўных былі забіты за веру ў савецкай дзяржаве. Каля тысячы новапакутнікаў былі кананізаваны Рускай Праваслаўнай Царквой у жніўні 2000 года.

Той жа бацюшка Сяргей сцвярджае: новапакутнікі – гэта сведкі, якія паказалі, што можна дасягнуць святасці і ў XX стагоддзі, што можна мець мужнасць, якая была ў першахрысціянскіх пакутнікаў. Яна паказалі, да чаго можа прывесці цеснае яднанне царквы і дзяржавы.

Такім чынам іконы, якія ўжо ажылі ў Свята-Пакроўскім саборы, насуперак "рэкамендацыям", застануцца ў храме. Тым больш, напісаны яны па ўсіх праваслаўных канонах.

## Міжнародная арганізацыя Amnesty International выдала штогадовую справаздачу аб становішчы з правамі чалавека ў сьвеце за мінулы год




**У разьдзеле, прысьвечаным Беларусі, адзначаецца ціск уладаў на грамадзянскую супольнасьць, юрыдычны перасьлед апазіцыйных актывістаў, а таксама працяг выкананьня сьмяротных пакараньняў.**

Сёлетняя справаздача Amnesty International пацьвярджае, што Беларусь застаецца несвабоднай краінай. У разьдзеле справаздачы, прысьвечаным Беларусі, нагадваецца, што ў сьнежні летась Генэральная асамблея ААН прыняла рэзалюцыю, у якой асуджаюцца парушэньні правоў чалавека ў Беларусі, паведамляе "Радыё Свабода".

Пералічваючы выпадкі парушэньні права на свабоду выказваньня ў Беларусі, Amnesty International асабліва засяроджвае ўвагу на двух сюжэтах: зьняволеньні былога кандыдата на прэзыдэнта Аляксандра Казуліна, які адбывае тэрмін за арганізацыю мірнай дэманстрацыі, і рэпрэсіі уладаў супраць удзельнікаў сёлетніх дэманстрацый на Дзень Волі 25 сакавіка.

У частцы справаздачы, якая тычыцца парушэньняў свабоды асацыяцый, гаворыцца пра шматлікія выпадкі крымінальнага перасьледу актывістаў "Маладога Фронту", якія прыцягваліся да адказнасьці за "дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі".

Таксама прыгадваецца выпадак з праваабарончай арганізацыяй "Вясна", якая была зьліквідаваная ў 2003 годзе. Летась у ліпені Камітэт ААН па правах чалавека прыняў пастанову, у якой расцаніў ліквідацыю "Вясны" як парушэньне беларускімі ўладамі права на свабоду асацыяцый. Пасьля гэтага рашэньня сябры ліквідаванай арганізацыі падалі заяву на новую рэгістрацыю, але атрымалі адмову.

У частцы, якая тычыцца свабоды сумленьня, адзначаецца, што адпаведны закон, прыняты ў Беларусі ў 2002 годзе, дае магчымасьць весьці паўнацэнную дзейнасьць толькі зарэгістраваным канфэсіям. Пры гэтым многія пратэстанцкія цэрквы сутыкаюцца са шматлікімі перашкодамі. Amnesty International прыводзіць выпадак пратэстанцкага пастара Яраслава Лукашыка. Ён быў арыштаваны па абвінавачваньні ў "незаконнай рэлігійнай дзейнасьці", а потым дэпартаваны з краіны, хоць жонка і трое дзяцей пастара грамадзяне Беларусі.

Змаганьне супраць сьмяротнага пакараньня было адным з галоўных напрамкаў дзейнасьці Amnesty International ад пачатку яе стварэньня. Юрыдычная практыка Беларусі кідае выклік гэтым памкненьням арганізацыі. Беларусь адзіная краіна ня толькі ў Эўропе, але і ў рэгіёне, якая працягвае выконваць сьмяротныя пакараньні. Нават Узбэкістан абвясьціў мараторый на іх выкананьне ад пачатку бягучага году, у Беларусі ж сёлета ў лютым былі выкананыя тры сьмяротныя прысуды.

Amnesty International міжнародная няўрадавая арганізацыя, якая мае на мэце "рабіць дасьледаваньні і дзеяньні, скіраваныя на папярэджаньне і спыненьне парушэньня правоў на фізічную і псіхічную недатыкальнасьць, на свабоду сумленьня і выказваньня". Заснавана ў Вялікай Брытаніі ў 1961 годзе. У 1977 годзе ўганараваная Нобэлеўскай прэміяй міру.

## Шокавая тэрапія не адбылася

✍Саша Заяц

**Тры брыгады хуткай дапамогі маглі выратаваць юнаку жыццё, аднак ані на воднай машыне не працаваў дэфібрылятар. Чалавек памёр, а медыкаў нават і не абвінавацілі.**

Раённым судом Магілёва разглядаецца крымінальная справа па сьмерці 21-годнага хлопца, які загінуў у выніку няшчаснага выпадку на будаўніцтве ў 2007 годзе. Галоўны інжынэр адкажа за недагляд, а вось хуткая дапамога, якая магла б выратаваць жыцьцё хлапчуку, застаецца ў баку.

Выпадак здарыўся на будаўнічых работах у сакавіку мінулага года. Малады электрык уключыў рубільнік, выпадкова ўзяўся за трос пад вялікім напружаньнем, і яго адкінула на 6 мэтраў. Рабочыя, што падбеглі да яго, пачалі рабіць штучны масаж сэрца. Хлопец пачаў дыхаць, аднак без электрашока абыйсьціся было не магчыма. Неўзабаве прыехала кардыёбрыгада хуткай медычнай дапамогі, аднак абсталяваньне чамусьці не працавала. Лекары выклікалі на дапамогу яшчэ адну брыгаду. Ізноў прыехала машына з паламаным дэфібрылятарам. Трэцяя брыгада не дапамагла хлопцу, які паміраў, па той жа самай прычыне - не працавала абсталяваньне. У выніку хлопец загінуў. Па факту сьмерці ўзбудзілі крымінальную справу.

Доказы сьведчаь пра наяўнасьць трох выклікаў хуткай дапамогі, аднак адказчык у судзе толькі галоўны інжынэр спадар Чэркас. Згодна артыкулу 428 Крымінальнага кодэкса РБ, за не дастатковае выкананьне пасадоўцам сваіх службовых абавязкаў, у выніку чаго загінуў чалавек, спадар Чэркас можа быць пазбаўлены волі на тэрмін да пяці гадоў. А хто адкажа за невыратаванае жыцьцё юнака? Хто адкажа за непрацоўнае абсталяваньне на трох машынах ХМД, якія маглі б выратаваць жыцьцё чалавека?

# Хто зараз гаспадар?

✍Ларыса Шукайла
Старшыня Магілёўскага аддзялення ГА "Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій", чалец прафсаюза РЭПам

**Толькі адсветкавалі Дзень Перамогі, а ўжо 10 траўня фашысты паказалі, хто ў Магілёве гаспадар. Так, па цэнтральнай вуліцы горада ў адкрытым кабрыялеце, у суправаджэнні некалькіх аўтамашын, раз'яджала пара маладых. Пры гэтым, жаніх дэмастратыўна выкідваў руку ў фашысцкім прывітанні.**

Як казала супрацоўніца гарадской бібліятэкі, нявеста таксама "странно держала руку". Калі ж выходзяць традстаўнікі з асяродку апазіцыі пад сцягам свабоды з патрабаваннямі змянення дзеючага рэжыму, прымяненне санкцый з боку дзеючага кіраўніцтва не застаўляе сабе чакаць. Калі ж праходзіла акцыя нэафашістаў, міліцыі, суправаджаючай гэтую акцыю наглядам, не было побач. Так працуюць нашы ўлады, асабліва Камітэт дзяржаўнай бяспекі, супрацоўнікі якога 9 траўня хадзілі ў медалях па Магілёву. Гэтыя медалі яны зараблялі, адпраўляючы на пагубу людзей у Афганістан, а таксама за знішчэнне сем'яў удзельнікаў вайны, абаронцаў Радзімы ад фашысцкай чумы. Зараз вынікі працы дэманструюць сабе на вуліцах Магілёва, дзе кожны трэці загінуў ад рук фашысцкіх малодчыкаў. Сучасныя фашысты, паранейшаму, з дазволу ўладаў, знішчаюць людзей, выкарыстоўваючы халодную і агністрэльную зброю, атрутны газ, аўтамабільныя катастрофы, псіхушкі, спальваючы дамы і людзей. Так, у Клімавіцкім раёне, у вёсцы Семенаўка была забіта Ермакова (Ільюшчанка) Раіса Пятроўна, а праз год знайшлі забітага яе мужа Ермакова Мікалая, праз некаторы час спалілі і іх хату. Малодшая іх дачка, Баеўская Тацяна, ледзь паспела выскачыць з полымя.



Хто дэманстраваў сябе 10 траўня? Можа гэта маладыя ўласаўцы, якія даўно дзейнічаюць у Магілёве, а можа гэта прадстаўнікі іншых фашысцкіх арганізацый. Яшчэ ў 1998 годзе Ўласаў А. В. і Арцюхова І. Зладзілі аўтамабільны наезд на мяне. Маім сведкам Уласаў абяцаў тое ж самае, калі яны "будут много выступать". На судзе яны нават не адмаўляліся ад майго паведамлення, што наезд быў наўмысны. Але суддзя Фаміцкая В. не дала ходу гэтай справе. Ды і злачынцы ведалі, што ім усё сойдзе з рук.

Ці не час грамадству падняцца на барацьбу з фашызмам і прыцягнуць ворагаў народу да адказнасці.

## Зрывай сьцягі - я плачу!

✍Саша Заяц

**Грамадзянін сарваў дзяржаўны сьцяг у РАУСе й панёс яго дадому. Выпадак патрыятызму, ці крымінальнае злачынства? Суд вырашыў інакш: "Зьнявага да дзяржаўнай сымболікі".**



Кур'ёзны выпадак адбыўся ў Кастрычніцкім РАУСе горада Магілёва. Спачатку грамадзянін быў затрыманы за дробнае хуліганства. А пасьля таго як яго адпусьцілі, знаходзячыся ў нецьвярозым стане, за сваю свабоду вырашыў "аддзячыць" міліцыянтаў: сарваў дзяржаўны сьцяг, што вісеў у РАУСе над Дошкай гонару, і панёс яго дадому. Аднак, ізноў быў затрыманы.

Суд Кастрычніцкага раёна горада Магілёва спачатку разглядаў гэтае злачынства па артыкулу 339 ч.1 "Парушэньне парадку ў грамадзкім мейсцы", аданак, у выніку разгляданьня справы, падсуднаму быў прызначаны штраф у памеры 30 базавых велічынь згодна артыкула 370 Крымінальнага кодэксу "Зьнявага да дзяржаўнай сымболікі".

# Хто забіў?

✍"Наша Ніва"

**У вёску Вялікая Машчаніца Бялыніцкага раёна пасля вызвалення з калоніі вярнуліся два чалавекі, якія раней абвінавачваліся ў забойстве сям'і з шасці чалавек.**

У ноч 1 чэрвеня 2005 года адбылося жудаснае злачынства ў Вялікай Машчаніцы. А праз дзень ужо былі затрыманыя шэсць маладых людзей ва ўзросце ад 18 да 24 гадоў з гэтай вёскі. Пяцёра з іх былі абвінавачаныя ў забойстве. Расследванне па справе цягнулася амаль паўтары гады, адзінаццаць месяцаў ішоў судовы працэс у Магілёўскім абласным судзе пад старшынствам суддзі Міхаіла Мельнікава. У выніку судовага разгляду пракурор запатрабаваў для двух падазраваных выключную меру пакарання — расстрэл. Яшчэ для трох чалавек — пажыццёвае зняволенне.

Аднак 2 лістапада 2007 года судовая калегія Магілёўскага абласнога суда ўсім гэтым хлопцам у сувязі з недаказанасцю віны вынесла апраўдальны прысуд. Адзін з падсудных — Аляксандр Клепча — быў вызвалены з-пад варты ў зале суда. Астатнія былі пакараныя тэрмінамі зняволення ад 4 да 10 гадоў за іншыя злачынствы: крадзяжы ды згвалтаванне. У лютым 2008 году адбылося пасяджэнне Вярхоўнага суда РБ, які цалкам зацвердзіў прысуд Магілёўскага абласнога суда.

І вось у выніку абвешчанай у мінулым годзе амністыі 20 траўня быў вызвалены з-пад варты ў Аршанскай калоніі Генадзь Салаўёў, а 23 траўня — з Бабруйскай калоніі Сяргей Юшкевіч. Абодва адразу ж прыехалі да бацькоў у Вялікую Машчаніцу. Аднаго з іх у свой час пракурор патрабаваў прысудзіць да расстрэлу, другога — да пажыццёвага зняволення.

Дагэтуль няма адказу на галоўнае пытанне — хто забіў вясковую сям'ю з шасці чалавек, у тым ліку двух малых дзетак. Тым часам новыя зоркі на пагоны за гэты час паспела атрымаць амаль усё кіраўніцтва Бялыніцкага РАУС. Як кажуць людзі, — за тое, што ў свой час імгненна выконвалі любы загад былога старшыні райвыканкама Аляксандра Ільянава, які зараз сам знаходзіцца пад вартай.



## У першыя дні лета — да +26°С

Згодна з прагнозам Рэспубліканскага гідраметэацэнтра, 31 мая ў Беларусі чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі днём ва ўсходніх раёнах месцамі кароткачасовыя дажджы, магчымы навальніцы. Вецер паўночны 4—9 м/с, пры навальніцах парывы да 14 м/с.

Тэмпература паветра ноччу плюс 4—10°С, днём плюс 17—22°С, па паўднёвым захадзе да плюс 24°С.

1—2 чэрвеня ў Беларусі чакаецца пераменная воблачнасць. 1-га пераважна без ападкаў, толькі ў асобных раёнах Магілёўскай абласці кароткачасовы дождж, магчыма навальніца. Вецер паўночна-ўсходні 4—9 м/с, днём па паўднёвым усходзе парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ноччу плюс 4—10°С, днём плюс 16—22°С, па захадзе да плюс 24°С.

2 чэрвеня ноччу без ападкаў, днём у паўночна-усходніх раёнах Магілёўскай абласці кароткачасовыя дажджы. Вецер ноччу няўстойлівы, слабы, днём паўднёва-заходні 4—9 м/с. Тэмпература паветра ноччу плюс 3—9°С, на глебе месцамі замаразкі да 0 — мінус 2°С, днём плюс 17—23°С, па захадзе да плюс 26°С.

## График отключения горячей воды в Могилёве

✍mycity.by

| Период отключения | Район | Наименование источника тепла, тепловых сетей |
|---|---|---|
| 12.05.08—23.05.08 | ул. Челюскинцев, Рабочий поселок, ул. Космонавтов до ул. Лазаренко | Тепловые сети от ТЭЦ-1 |
| 09.07.08—22.07.08 | Заднепровье | Тепловые сети от ТЭЦ-2 |
| 28.07.08—08.08.08 | Центр, 30 лет Победы, Юбилейный | Тепловые сети от РК-1 |
| 12.05.08—23.05.08 | пр. Мира, ул. Космонавтов, ул. Чкалова, ул. Бурденко, ул. Вавилова; Мир-1 (ул. Лазаренко); Мир-2 (ул. Якубовского, ул. Орлова, ул. Б.-Бирули, ул. Сурганова) | Тепловые сети от РК-2 |
| 02.06.08—11.06.08 | р-н завода «Трансмаш» | Тепловые сети от РК-3 |
| 22.06.08—01.07.08 | р-н ж/д вокзала, ЖЭУ-20 | Тепловые сети от котельной вагонного депо |
| 14.05.08—25.05.08 | пос. Казимировка (ОЭЗ), пос. Пашково | Тепловые сети от МГКУП теплоэнергтики |
| 16.07.08—30.07.08 | пос. Буйничи (ВПТУ-1) | |

# Процесс пошёл

✍Юрий Пшенник,
«Наше мнение»

**Уровень недовольства народа политической и экономической ситуацией в Беларуси достиг такого уровня, что изменения в стране в ближайшее время неизбежны. Как «усталость» металла приводит к быстрому и внезапному разрушению механизма, так «усталость» людей приводит к краху социальной системы…**




Изменения уже происходят. А не замечают их, или не хотят замечать потому, что изменения эти не соответствуют ожиданиям власти.

Уровень недовольства народа достиг такого уровня, что Беларусь признали самой «несчастной» страной на планете. На первый взгляд кажется, что официальный Минск, как будто успешно, продолжает лавировать между «западом» и «востоком», но диапазон возможных колебаний становится все уже. К тому же Беларусь из субъекта этого процесса все больше превращается в его объект.

То есть, если раньше только от нашего руководства зависело когда, в какую сторону и на каких условиях «колебнуться», то теперь все более жесткие встречные условия выставляет и «запад» и «восток». А стоит реально, а не на словах, принять условия любой из сторон, колебания в противоположную сторону станут практически невозможными. То есть «колебательному процессу» в точке бифуркации, похоже, приходит конец, и время окончательного выбора нового аттрактора приближается. И список можно продолжать.

Так что, можно сказать, что «снежный ком» сдвинулся-таки с горы и начинает катиться с нарастающей скоростью. Начинается, как говорят аналитики, «темповая игра». События развиваются, причем скорость развития событий и их разнообразие возрастают. Субъекты этих событий пытаются реагировать на происходящее, вовлекаются новые участники, что еще больше усложняет картину, назревает так называемый «каскад бифуркаций».

И власть ведет эту «темповую игру» так, что ее можно считать заведомо проигранной. Практически все решения властей являются реакцией на произошедшие события, а не на намечающиеся тенденции. Поскольку реагируют только на прошлые события, то реакции оказываются крайне запоздалыми и не всегда адекватными.

Кризис является структурным, но его пытаются преодолеть традиционными методами. Ведь традиционные методы раньше работали, поэтому вполне естественно применять их и дальше. Между тем структурный кризис невозможно преодолеть в рамках традиционных для его появления методов и средств. Ведь структурный кризис есть кризис именно методов и средств, то есть качественный, а не количественный.

**…Еще год назад Беларусь была где-то в середине списка, а сегодня «самое несчастливое» государство на планете, даже Руанда и Зимбабве «счастливее». И даже официальная статистика «вражеские» выводы не опровергает.**

Спасти в такой ситуации может практически только Россия. Например, если сохранит нынешние условия поставок нефти и газа и даст обещанный кредит в 2 млрд. долл. Это позволит выиграть время, и крайне запоздалые решения властей смогут таки дать временный эффект.

Есть и внешние положительные для нынешней системы факторы. Например, рост мировых цен на продовольствие и калийные удобрения, восстановление доходов от «нефтяного оффшора» и некоторые другие. Скажем, за последние пару лет цены на калийные удобрения выросли в три раза, соответственно выросли и доходы белорусской власти.

Однако без российской поддержки они не спасают, поскольку здесь положительные темпы ниже совокупности отрицательных. Но, если Россия поможет продержаться, то есть вероятность выбраться из «ямы». Однако теоретически это невыгодно России, поскольку тогда Беларусь сможет выиграть «темповую игру» и избежать попадания в тотальную зависимость от той же России.

Есть и дополнительные отрицательные факторы. Например, если США удастся добиться признания Беларуси как спонсора терроризма. Тогда Европа, кстати, вне зависимости от желания, присоединится к санкциям против белорусского режима. И в этом случае даже помощь России не спасет, а положительные тренды по калийным удобрениям и нефтепродуктам станут отрицательными.

К тому же народ крайне «устал» от потрясений. Отмена льгот, изменение трудового законодательства, конечно же, не в лучшую для людей сторону, скачкообразный рост цен, школьная контрреформа, нежданно-негаданно обрушившаяся на школьников и их родителей. Причем все это в течение какого-то года с небольшим. Есть от чего прийти в шоковое состояние.

Именно поэтому довольных жизнью в Беларуси сегодня найти очень трудно, практически невозможно. Вот, например, интернет-портал World Database of Happiness (Всемирная база данных о счастье) опубликовал результаты исследований, в которых назвал самые счастливые страны мира. Авторы работы рассматривали 95 государств. Согласно полученным данным, лидируют в необычном хит-параде Швейцария и Дания.

**…Если разрушение нашей системы и произойдет, то вряд ли это будет похоже на классическую «цветную революцию». Скорее это будет напоминать распад СССР: вот стоял непоколебимой глыбой и вдруг раз и нет его.**

Среди самых неблагополучных стран первыми оказались Молдова и Беларусь. Затем значатся Узбекистан, Танзания, Руанда и Зимбабве. Рейтинг, конечно, не самый научный, но показательный  ведь еще год назад Беларусь была где-то в середине списка, а сегодня «самое несчастливое» государство на планете, даже Руанда и Зимбабве «счастливее». И даже официальная статистика «вражеские» выводы не опровергает.

Убийственную картину нарисовало Министерство статистики и анализа. В первом квартале нынешнего года добровольно ушли из жизни 635 белорусских граждан. Ежедневно уходили в мир иной в среднем семь человек. По сравнению с январем  мартом прошлого года число самоубийц увеличилось на 8,7%. Беларусь  в пятерке мировых лидеров по числу самоубийств на душу населения.

В прошлом году, по данным ВОЗ  37 суицидов на 100 000 жителей, учитывая рост в этом году, теперь значит будет больше. Есть шанс и здесь занять «почетное» первое место в мире. От случайных отравлений алкоголем скончался 801 человек (в первом квартале 2007 года  754; рост на 6,2%, от рук убийц  181 (164; рост на 10,4%. Численность населения страны сократилась за три месяца на 8,8 тыс. человек и на 1 апреля составила 9 млн. 681 тыс. Естественная убыль населения составила 4 человека на 1000.

Рост, как видим, присутствует по всем негативным показателям. Но потрясения ведь не закончились. Вот Минтруда официально заговорило о возможном повышении пенсионного возраста  опять шок практически для всего населения, кроме разве что быстрорастущей армии бомжей и «нерадивых родителей», которым уже все «до лампочки».

Как «усталость» металла приводит к быстрому и внезапному разрушению механизма, так «усталость» людей приводит к краху социальной системы. Т.е. если разрушение нашей системы и произойдет, то вряд ли это будет похоже на классическую «цветную революцию». Скорее это будет напоминать распад СССР: вот стоял непоколебимой глыбой и вдруг раз и нет его. Там ведь тоже главной причиной была именно «усталость» металла, то есть людей.

В общем, события развиваются стремительно. Правда, предсказать финал сложно, поскольку переплетается несколько трендов, события по каждому из них развиваются с разной скоростью, причем и ускорение по каждому направлению свое. При этом «катастрофа»  скачкообразное изменение ситуации, по одному тренду может резко изменить ситуацию в целом. Так что итог предсказывать и не будем, но быть в готовности к динамичному развитию событий советуем.

НАШ Магілёў
Незалежнае грамадзка - палітычнае выданьне Горада
Выдавец Андрусь Воўкаў, дырэктар Вітольд Няўрыда.
Надрукавана на ксэраксе ў горадзе Магілёве. Наклад: 299 ас.
Кантакт: Магілёў, 212017, а/с 46
Gazetanm@yandex.ru

НАШ Магілёў